






# Выбар

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

## УВАЖАЕМЫЙ ЧИТАТЕЛЬ!

*Этот первый номер независимой газеты «Выбар» появился в нашей области после злополучного и с треском провалившегося государственного путча.*

*Наступают подлинно исторические перемены. Теперь «так называемых» демократов стали примечать, даже приглашают их на работу в ответственные комиссии. А ведь совсем еще недавно, 20 августа 1991 года, начальник Октябрьского РОВД гор. Витебска полковник милиции Ильницкий в окружении своего доблестного центуриона выяснял и записывал на площади Свободы фамилии пикетчиков. Не для личной же их охраны занимался он этим?*

*И повезли бы, наверняка, строптивых, а точнее, неравнодушных к судьбе Беларуси граждан в изолированных купе по старым, 1937 года, адресам, кабы не Москва, Санкт-Петербург и наша родная Орша.*

*Простим же великодушно тихому, будто впавшему в летаргический сон, Витебску. Он проявил себя в трагические для всех нас дни как наиболее невосприимчивая к переменам верноподданническая часть тоталитарной империи. Теперь есть над чем подумать уважаемым горожанам — жителям нашего белокаменного областного центра, других городов и районов. И не только подумать, но и извлечь для себя соответствующие уроки.*

*Наша газета называется — «Выбар». Это не заезженное в политической трескотне, как может показаться на первый взгляд некоторым, слово. Учит людей выбору Вечная книга — Библия.*

*Если бы мы с малых лет начинали понимать, как надо идти по жизни, если бы не росли с зашоренными мозгами, если бы нам с молоком матери прививали не «классовый подход», а общечеловеческие ценности, мы бы все не дошли до такой жизни.*

*Именно сейчас острее, чем когда-либо, стоит, читатель, перед тобой проблема выбора. Демократы еще не победили. Они только в начале пути. Зато проложили дорогу к свободе волеизъявления, и этим надо незамедлительно воспользоваться. Иначе это великое завоевание вольнодумцев возьмут на вооружение те, которые успешно перекочевали из зданий комитетов КПБ в советские учреждения, малые предприятия и болеют ностальгией по прошлому.*

*Уважаемый земляк, житель Придвинско-Приднепровского края! С кем сегодня ты? Кого выбираешь себе в наставники — бога или дьявола? Правду или кривду? Творческое горение или прозябание?*

*Хочешь ли ты жить и умереть человеком, оставить после себя свободных детей и внуков, которые могли бы плодотворно реализовывать себя в нашем многомиллиардном общечеловеческом доме?*

*Что же, мы пришли опять к тому, с чего когда-то начинали: хотим людьми зваться. По существу до сей поры истинной Беларуси, выпестованной всеобщей народной любовью, еще у нас не было. Многолетнее рабство иссушало души, делало нас от рождения незрячими.*

*Что же обещает своим читателям газета демократических сил Придвинско-Приднепровского края? Ни в коем случае она не станет «карманной», то есть не превратится в рупор определенных должностных лиц. В наших публикациях всегда будет главенствовать человеческая жизнь и личность.*

*А конкретную цель «Выбара» сформулируем так: будем помогать новым и пересмотревшим свои прежние позиции старым общественным силам вытаскивать нашу Беларусь из 73-летней пещерности, поднимать с колен уставший и ожидающий очередных социально-экономических потрясений народ на создание действительно гражданского общества, действительно демократического правового государства.*

*Редакция газеты «Выбар».*

*Інтэрв'ю перад сесіяй*

# Свабоду не заваёўваюць у адзіночку

***Зянон Пазьняк—народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня сойма Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», лідэр апазіцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі—адказвае на пытанні карэспандэнта нашай газеты Яўгеніі Мальчэўскай.***

**—Шаноўны Зянон Станіслававіч, Вы заўсёды былі паслядоўным у палітычнай дзейнасці. Адносна камуністычнай наменклатуры вы мужна заявілі на адной з мінулых сесій: «Колькі вы ні лемантуйце, усё роўна ваш канец прыйшоў». Што Вы можаце сказаць на сённяшні дзень? Наблізіўся гэты канец, ці наменклатура толькі падарвана?**

—Гэты канец набліжаецца з кожным днём. Ен, можна так сказаць, прыйшоў. Юрыдычна кампартыя ўжо не існуе, маральна яна даўно згубіла ўсякі аўтарытэт. Базы яна не мае ні сацыяльнай, ні маральнай, ні ідэйнай. Поўны нуль. У яе засталася толькі маёмасць, якая зараз апячатана, і яе трэба тэрмінова перадаць народу. Бо гэта маёмасць—нарабаваная ў народа. І ў яе яшчэ засталася сацыяльная база ў вёсцы. Гэта калгасы і калгасная наменклатура. Засталася ў яе база і ў тых асацыяцыях і прадпрыемствах, якія яна паспела арганізаваць, і ў тых сродках, якія яна паспела пасцаць у банкі. А таксама засталіся ў яе наменклатурныя сувязі ў адміністрацыйнай сістэме. Вось гэта—самае страшнае, таму што гэта можа прывесці да ўтварэння мафіёзных структур, якія будуць выражаць пэўныя сацыяльныя інтарэсы.

Зараз мы назіраем, што наменклатура з былых партыйных структур перабягае ў дзяржаўныя структуры. У прыватнасці, у Савет Міністраў, якім кіруе былы член бюро ЦК КПБ В. Ф. Кебіч. Таму зараз адбываецца вось такая рэкіроўка, мітусенне гэтых структур. Але аснова кампартыі як ценявой структуры ўлады ўжо падарвана, і перспектыў для адраджэння яна не мае ніякіх.

**—Хацелася б спытаць, ці ёсць цяпер магчымасць у Вярхоўнага Савета вынесці нейкія пастановы па канфіскацыі або нацыяналізацыі маёмасці партыі?**

—Ні па канфіскацыі, ні па нацыяналізацыі ніхто не будзе выносіць ніякіх прапаноў, бо такія прапановы —бальшавіцкія. Будзе вынесена прапанова, і яна ўжо вынесена апазіцыяй Народнага Фронту, аб перадачы маёмасці КПБ—КПСС у карысць беларускай дзяржавы, гэта значыць, у карысць народа.

**—А ці будзе падтрымана гэта на сесіі?**

—Гэта залежыць ад дэпутатаў, а большасць з іх у Вярхоўным Савеце—гэта былая камуністычная наменклатура. Таму ўсё ў значнай ступені будзе залежаць ад таго, як яны сябе будуць паводзіць, а таксама будзе многае залежаць ад тактыкі апазіцыі. Так што—усё пакажа сесія.

**—Я ведаю, што наш Віцебскі абкам КПБ, калі была прыпынена дзейнасць партыі, вывозіў на тэрыторыю калгаса імя Суворава сваю маёмасць. 24-га, 25-га жніўня ды і пазней затрымліваліся машыны... І камісіі па расследаванню гэта вядома. Ёсць аналагічныя факты ў другіх партыйных установах. Як усё будзе разглядацца Вярхоўным Саветам?**

—Камісія па расследаванню будзе даваць справаздачу на сесіі. Магчыма, на гэтай не будзе, хоць дэпутаты будуць патрабаваць інфармацыю, як адбываецца расследаванне. А пасля таго, як яно закончыцца, абавязкова будзе ўсё дакладзена Вярхоўнаму Савету.

**—Зянон Станіслававіч, хачу спытаць адносна Віцебска. Ці меў права старшыня калгаса, калі ён нават і закупіў маёмасць, у тыя часы, у тыя дні, калі прыпынена дзейнасць партыі, а гэта значыць—часова забаронена, вывозіць яе, а кіраўнік спраў абкома КПБ Э. С. Дабрыян у абласной газеце даваць нейкія тлумачэнні?**

—Гэта парушае пастановы Вярхоўнага Савета, і яно павінна карацца па закону.

**—Наконт нашых дэпутатаў у парламенце рэспублікі ад Віцебска. Ці папоўніліся імі рады апазіцыі, хаця сёння, можна сказаць, гэта ўжо не апазіцыя, паколькі яна паказала сябе, як накіроўваючая палітычная сіла.**

—Апазіцыя сёння мае канструктыўны напрамак. Мы адзін час, сапраўды, выйшлі ў класічную жорсткую апазіцыю, а цяпер працуем як адзіная канструктыўная еднасць. Фактычна, акрамя дэпутатаў апазіцыі, у Вярхоўным Савеце зараз ніхто не працуе. Усе напрацоўкі законаў і пастаноў цяпер робяцца намі.

Што датычыць дэпутатаў ад Віцебшчыны, то ад самага пачатку ў апазіцыі Народнага Фронту ўдзельнічаюць дэпутаты Навумчык Сяргей Іосіфавіч і Глушкевіч Яўген Міхайлавіч. Яны актыўныя, асабліва Навумчык. І, думаю, людзі надзейныя.

**—А што б вы сказалі аб нашым дэпутаце М. А. Слямнёве, які быў у групе «Камуністы за дэмакратыю». Потым яна, па-мойму, у складзе 52 чалавек выйшла з партыі. Слямнёў і гэтая група сёння ў большай ступені падтрымліваюць апазіцыю, ці яны так і засталіся нейкім асобным асяродкам?**

—Яны сталі зараз больш схіляцца да меркаванняў апазіцыі, таму што ўсё, што выстаўляла апазіцыя Народнага Фронту, усе законы, усе прагнозы, якія яна рабіла, спраўдзіліся да апошняга слова. Таму сумленнаму чалавеку адразу ўсё відаць, ды і выйсця іншага няма.

Слямнёў на працягу гэтага года работы засведчыў сябе як адукаваны, памяркоўны чалавек. Але цвёрдасці пазіцыі ў яго не было. У многіх пытаннях ён вагаўся ці дрэнна, можа, арыентаваўся. Гэта, відаць, былі яго ўласныя недахопы. Зараз ён займае пазіцыю больш прынцыповую. Напрыклад, гэты чалавек на прэзідыуме адмовіўся падпісваць зварот адносна ГКЧП. Я быў на тым прэзідыуме, дзе ён публічна заявіў, што яго сумленне не дазваляе яму гэта зрабіць. Цяпер ён падтрымлівае перадавыя памкненні і ў эканоміцы, і ў палітыцы, але ў апазіцыю ён не ўваходзіць. Ён—сам па сабе на ўзроўні дэмакратычнага клуба.

**—Беларусь абвясціла сябе незалежнай рэспублікай, але незалежнасць яе яшчэ не поўная, як, напрыклад, у рэспублік Прыбалтыкі. Якія будуць намаганні апазіцыі БНФ, Савета Міністраў, каб сапраўды зрабіць рэспубліку незалежнай у поўным сэнсе: і са сваім кіраўніцтвам, і, магчыма, з будучым прэзідэнтам, і з усімі іншымі атрыбутамі дзяржаўнасці?**

—Трэба ў першую чаргу ствараць дзяржаўныя структуры незалежнай Беларусі, якія б гарантавалі яе суверэнітэт. Гэта значыць, ствараць войска, ствараць сістэму абароны, сваю валюту, сваю памежную варту (мыту), усе іншыя атрыбуты незалежнай дзяржавы. Ва ўсім гэтым павінны ўдзельнічаць не толькі адны заканадаўцы, а ўсё грамадства, увесь народ. Для адной апазіцыі такая работа непасільная. Саўмін гэтай справай займацца не будзе, яго трэба ўвесь распускаць, таму што там людзі, якія прыйшлі з наменклатуры партыйнай, і ў іх свае інтарэсы. Падзеі пасля надзвычайнай сесіі пацвердзілі гэта: прэм'ер-міністр Кебіч не зрабіў нічога, каб умацаваць наш суверэнітэт, каб палепшыць становішча, каб давесці да лагічнага завяршэння прыпыненне структур КПСС, каб змяніць кадры, якія падтрымалі ГКЧП. Нічога гэтага не зроблена. Таму Саўмін не спраўляецца з задачамі, якія стаяць зараз перад рэспублікай. Патрэбны другі ўрад, другі прэм'ер-міністр.

**—У адным са сваіх выступленняў Станіслаў Шушкевіч сказаў, што частка партыйнай маёмасці перадацца народу. Але, каб гэта было зроблена да з'яўлення ГКЧП, то, пэўна, на надзвычайнай сесіі не паўстала б пытанне аб дэпартызацыі...**

—Гэта—гаданне на кафейнай гушчы і зараз не мае ніякага значэння. Факт застаецца адзіны: камунізм рухнуў ганебна, з вялікім грукатам. І цяпер трэба, як кажуць, спакойна давесці ўсё да канца, каб грамадства ўздыхнула свабодна і эканамічна, і культурна, і палітычна. І спадзяванні толькі на нейкія ўрадавыя структуры, якія засталіся старымі, прывядуць да таго, што беларусы апынуцца на задворках. Асабліва, калі наш народ, нашы грамадскія структуры, наша інтэлігенцыя не ўключацца ў працэс адраджэння вольнай і незалежнай Беларусі. Свабоду не заваёўваюць у адзіночку.

**—У нашым горадзе амаль непрыкметнае ўключэнне ў грамадска-палітычны працэс. Ва ўладавых структурах да самых нізоў тыя ж самыя людзі, павязаныя адзіным партыйным білетам. І вось, калі пачнуцца выбары, яны стануць выбівацца зноў ва ўладавыя структуры...**

—Я вам на гэта магу сказаць адназначна: усялякі народ варты сваіх правіцеляў. Гэта закон, які заўсёды выяўляецца. Так—у таталітарных рэжымах, хаця ў таталітарных рэжымах другіх народаў—другія суадносіны, таму што там падаўлена воля народа, там пануе хлусня, гвалт, уціск. Таму больш справядліва ахарактарызаваць стан нашага грамадства як грамадства хворага. Трэба дапамагаць яму вылечвацца. Мы за 73 гады зрабілі яго хворым. І тое, што адбываецца ў Віцебску і ўсюды—гэта выяўленне вось такой грамадскай хваробы, гэта значыць, што людзі яшчэ не пазбавіліся страху, не перажылі апатыі, не вызваліліся ад сацыяльнай неактыўнасці, ад нявер'я ў будучыню, ад нявер'я ў свае сілы. Гэта—стан хваробы. Але хварэць вечна нельга, таму што можна памерці. Таму трэба старацца выздаравець, і, як бы ні было цяжка, трэба шукаць шляхі, шукаць людзей. Становішча на Беларусі сёння значна лепшае, чым было год ці два назад. Ёсць умовы, ёсць магчымасць для сцвярджэння нашай свабоды, нашага суверэнітэту, для паляпшэння ўмоў жыцця. Вось і давайце працаваць.




*Что о нас пишут?*

# Из окопов—в подполье

Декоммунизация в Белоруссии напоминает неотрежиссированный спектакль с часто повторяющимися курьёзными сценками.

25 августа с 20.00 компартия Белоруссии, согласно постановлению Верховного Совета республики, должна была «временно приостановить» свою работу. Однако на следующий день группа депутатов во главе с секретарем комиссии по гласности Верховного Совета С. Наумчиком при проверке здания ЦК КПБ в одном из кабинетов обнаружила лихорадочно работающий «боевой штаб партии» в составе первого секретаря ЦК А. Малофеева и еще нескольких высших работников аппарата. Незаговорщики в подпольных условиях составляли Обращение к коммунистам, где говорилось о «волне антикоммунистической истерии» и прочих бедах несчастных партбоссов. Естественно, что депутаты предложили заседавшим продолжить прения на улице.

В тот же день в Поставском районе Витебской области партийцы рангом пониже даже перещеголяли собственное руководство. Да, коммунисты покинули здание райкома, но... только на полчасика, чтобы лично поруководить установкой перед райкомом новенького памятника Ленину.

Иногда ситуация противоположная, когда вместе с водой выплескивают и ребенка. Таким «ребенком» в Витебске стала газета «Молодежные новости», которая арендовала помещение для редакции в здании обкома партии. Теперь же журналисты весьма прогрессивной газеты не могут попасть на рабочие места—обком опечатан.

Заместитель министра юстиции В. Подгруша разослала в Советы народных депутатов республики служебную записку, в которой регламентируется механизм приостановления деятельности партии. Согласно этому разъяснению, ответственным работникам партийных комитетов запрещено заниматься функциональной деятельностью, а приходить в свои служебные кабинеты—пожалуйста. **Роман РУДЬ**,

Газета **«Демократическая Россия»** от 6—12 сентября 1991 г.

*Как это было*

# «Пусть позаботятся о руководящей роли своей партии!»

*Белорусская пресса скудно информировала о суде над Николаем Разумовым. Читателям «Выбара» будет небезынтересна публикация «Независимой газеты» (учредитель — Московский Совет народных депутатов) от 15 августа 1991 года. Перепечатывается с некоторыми сокращениями.*



**Лидер оршанских рабочих подсудимый Николай Разумов дал интервью корреспонденту «НГ»**

Игорь СИНЯКЕВИЧ
Белоруссия

Как сообщала «НГ», 7 августа проходящий в Могилеве процесс по делу председателя Оршанского стачкома Николая Разумова, обвиненного в организации несанкционированных митингов и блокады железной дороги 23—25 апреля, был внезапно прерван. Группа оршанцев, окружив подсудимого тройным кольцом, вывела его из зала суда и увезла в Оршу. Милиция этому не препятствовала. В Верховный суд БССР было направлено требование оршанских рабочих, в котором, в частности, говорится: «Мы, рабочие предприятий г. Орши, изымаем товарища Разумова Н. Е. 7 августа 1991 г. прямо из зала суда в 11 час. 50 мин. и не выдадим его до тех пор, пока из Верховного суда БССР не прибудет в Оршу представитель для решения трех спорных вопросов между Верховным судом БССР и рабочими предприятий г. Орши: где проводить суд, кто войдет в состав суда и быть суду открытым или закрытым?»

Поскольку у «конфискованного» оршанцами Разумова имелась справка, что он болен, судебное разбирательство было перенесено на понедельник. Однако 12 августа Разумов не явился на заседание суда. Суд перенес заседание на среду и решил в случае неявки подсудимого подвергнуть его принудительному приводу.

Обращает на себя внимание некоторая непредсказуемость поведения подсудимого. Так, 1 августа он объявляет голодовку и отказывается отвечать на вопросы суда. 5-го он прекращает голодовку и задает вопросы свидетелям, продолжая игнорировать вопросы судьи, обращенные к нему. 7 августа его «похищают» из зала суда. У многих вызывают недоумение его непрерывные обращения к ООН и всякого рода заявления.

Действия Николая Разумова не находят поддержки у членов Минского стачкома. И ставят их в сложное положение. Напомню, что и блокада железной дороги в апреле не была поддержана Минским стачкомом. Однако, когда начался суд над Разумовым, Минский стачком организовал широкую, насколько это было возможно, кампанию протеста. Не поддерживая радикализма подсудимого, лидеры минских рабочих тем не менее понимают, что за Разумовым последуют многие. Кроме того, начав судебное разбирательство, руководство республики нарушило достигнутую в апреле договоренность со стачкомом об относительном неприменении репрессивных мер по отношению к участникам забастовок.

Чтобы прояснить ситуацию, я задал несколько вопросов самому Николаю Разумову.

**—В своем заявлении 1 августа вы сказали, что блокада железной дороги была спровоцирована спецслужбами с целью дестабилизации обстановки, а ваши действия были направлены на предотвращение кровопролития.**

—Я еще в июне 1990 года начал догадываться, что основным местом в Белоруссии для совершения провокации, для совершения кровопролития будет Орша. Я всей информации дать сейчас не могу, потому что я буду добиваться всеми путями, любыми средствами, чтобы была назначена комиссия ООН по расследованию этого факта.

Орша была выбрана не случайно. Здесь имеются три тюрьмы, на 8 тысяч человек, отбывающих разные сроки наказания, и вообще это компактный город, который быстро и легко можно поднять. 24—25 апреля велось целенаправленное спаивание населения: в продажу поступила водка без талонов и продавался сок с добавлением спирта. Поэтому я буду добиваться, чтобы было проведено международное расследование. На сегодняшний день я уже основал оргкомитет по созданию освободительного движения Белоруссии от большевистской тирании.

У нас нет цели захвата власти, и, наоборот, мы поддерживаем все демократические партии и движения.

**—В транспортной прокуратуре мне сказали, что в следственных органах имеется видеозапись событий, где отчетливо видна ваша руководящая роль.**

—Пусть позаботятся о руководящей роли своей партии! И к тому же это я пригласил видеокамеру. И я мог бы любые камеры—и скрытые, и не скрытые—лишить возможности контроля. У меня хорошо была налажена система в тот момент, когда мы контролировали в целом положение дел через рабочие отряды. И один из тех, кто снимал (их было двое), подошел ко мне и прямо спросил, можно ли снимать. И пускай не думают, что я до такой степени либерален, чтобы специально показывать, что совершаю преступление... Вины своей я не ощущаю.

**—В чем причина ваших нестыковок с Минским стачкомом?**

—Минский стачком не поддерживает Михаила Соболя, председателя Конфедерации труда Белоруссии. А я его единомышленник. Кроме того, я знаю, что в Минском забасткоме есть люди КГБ.

**—Каким вы видите дальнейшее развитие ситуации?**

—Сейчас в Орше усиленно распространяются слухи, что надо было не железную дорогу блокировать, а международный газопровод перекрывать. Я думаю, что это готовится спецслужбами очередная провокация. И приурочена она будет ко второй встрече «7+1».

* * *

Ситуация вокруг суда над Разумовым очень неясна и запутанна. Что касается последней его фразы, то в ноябре—декабре прошлого года лидер «Лиги свободной Литвы» Антонас Терляцкас почти ежедневно по любому поводу заявлял, что, мол, Прунскене—агент Кремля, она договаривалась с Горбачевым поднять в январе цены, чтобы возмутить народ и облегчить введение президентского правления. Над «пророком» посмеивались. Число его сторонников сокращалось—одна улыбка «янтарной леди» на телеэкране весила больше, чем все высказывания Терляцкаса. 7 января всем стало не до смеха...



**На снимках:** мятежная Орша 26 апреля 1991 года; Николай Разумов в этот день дает интервью.

Фото витебского журналиста **М. МИХАЙЛОВА.**

# Выратаваць нацыянальныя кляйноты

Цалкам падтрымліваем ліст старшынь шэрагу мастацкіх ды й культурна-гістарычных арганізацый і дырэктара абласнога краязнаўчага музея. Лічым, што будынак былога акругова суда, незаконна перададзены пасля кастрычніцкіх падзей 1917 г. функцыянерам камуністычнай партыі, павінен стаць Мастацкім музеем.

Гмах, пабудаваны болей стагоддзя таму назад у старым горадзе, з'яўляецца, на думку даследчыкаў, выдатным архітэктурным помнікам. Захаваць яго як помнік для нашчадкаў **належным чынам могуць толькі зацікаўленыя культурна-мастацкія** арганізацыі, якія заклікаем дзяржавай і грамадствам зберагаць нашую багатую культурна-гістарычную спадчыну. А ў тым, што яна багатая, сумнявацца няма патрэбы, бо, напрыклад, адны толькі сховішчы абласнога краязнаўчага музея перапоўнены да краёў. Экспанаты, якія маюць вялікую мастацкую й гістарычную каштоўнасць, захоўваюцца ў надта дрэнных для іх варунках. Калі тэрмінова не размясціць гэтыя прадметы ў светлых, утульных, зручных памяшканнях былога акругова суда, яны загінуць.

Размешчаны ў цэнтры места, будынак адпавядае задуме стварэння ў старажытнай частцы горада новага, адроджанага культурна-мастацкага асяроддзя.

Заклікаем улады да як найхутчэйшага вырашэння праблемы выратавання беларускіх нацыянальных кляйнотаў.

**Клуб «Узгор'е», Віцебская рада БНФ «Адраджэньне», Віцебская суполка Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

## ХОТЯТ БЫТЬ ГРАЖДАНАМИ

Забастовала наша бригада гравёров производственного объединения «Монолит». Не работаем уже больше десяти дней. Мы не согласны с решением администрации о пересмотре норм выработки.

Хотим ещё, как и все другие (пекари, токари, академики), быть гражданами, а потом работниками. Возмущены неуважительным отношением к нам нашего мастера В. Стаховича.

**М. КАРПЕНКО,**
**рабочий бригады гравёров, председатель забастовочного комитета цеха № 21.**

# Падпольнае вяртанне сцягоў

З гісторыі вякоў, пасля ўсеагульнага ахайвання і забароны, наш бела-чырвона-белы сцяг выйшаў на вуліцы і плошчы гарадоў. Гэта той самы сцяг, супраць якога пратэставала недасведчаная і кансерватыўная інтэлігенцыя горада ў час святкавання юбілею У. Караткевіча, якое праводзілася ў тэатры імя Якуба Коласа ў мінулым годзе. А што гаварыць пра іншых, пра тых, каму афіцыйная камуністычная прэса ўбіла ў галаву, што бела-чырвона-белы сцяг—гэта сцяг фашысцкіх халуёў і прыхвасняў.

Не, шаноўныя чытачы. Наша гісторыя пачалася не ў час Вялікай Айчыннай вайны і не з часоў кастрычніцкага перавароту. Яна пачалася з той даўніны, адкуль прыйшлі на зямлю мы—беларусы. І прыйшоў наш герб «Пагоня», які спрадвеку быў сімвалам горада Віцебска і іншых гарадоў нашай краіны. І прыйшоў з той самай даўніны наш бела-чырвона-белы сцяг.

Вярхоўнаму Савету засталося толькі стаць запозненым рэгістратарам гістарычных нацыянальных сімвалаў.

І вось, нарэшце, наш сцяг узвіўся ў сталіцы нашай Незалежнай дзяржавы—Менску. Шкада, што не было ўсенароднага свята, шкада, што гэтак жа сама, падпольна, зрабілі і ў Віцебску. І многія, каму прывіты негатыўныя адносіны да нашай сімволікі, здзіўлена пытаюць: «А што гэта за сцяг?»

Дык вось, шаноўныя спадары, белы колер—таму, што мы Русь Белая (светлая, вольная, незаплямленая), а колер чырвоны—наша трагічная, шматпакутная ды і небескрывавая гісторыя. Да таго ж, чырвоны колер—сімвал дэмакратыі ва ўсім свеце.

Шкада, што без урачыстасцяў, але першым у нашым горадзе ўзняў над сваім будынкам бела-чырвона-белы сцяг Кастрычніцкі райсавет. Нацыянальнае палотнішча першым з'явілася і ў кабінеце яго старшыні Валерыя Неушава.

Затым з'явіўся гэты сцяг, невядома калі і кім узняты, над будынкам гарсавета. А вось абласны Савет быў апошнім.

*Аэраграма з Аўстраліі*

## ВІНШУЮ МАЦІ-БЕЛАРУСЬ

Віншую ўвесь Беларускі народ з нагоды Дэкларацыі Незалежнасці Беларусі 25-га жніўня 1991 г. Я ведаю, што яшчэ зойме даволі доўгі час перад тым, як уся нячысцiня, звязаная з доўгім паняволеннем, выйдзе з сістэмы Беларускага народа,—але я ўжо не маю найменшага сумніву, што Маці-Беларусь будзе скора цешыцца сваім Вольным і Незалежным жыццём. Усім змагарам-патрыётам належацца Слава і Гонар!!!

**Алесь АЛЕХНІК,**
**генеральны сакратар Беларускага аб'яднання Аўстраліі.**

# Незалежнасць ад страху

***Непасрэдна ў рабочым кабінеце ў Вярхоўным Савеце рэспублікі наш карэспандэнт гутарыла з членам Рады Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады, народным дэпутатам, намеснікам старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Алегам Трусавым***

**—Алег Анатольевіч, будучы Закон аб выбарах, спадзяёмся, істотна зменіцца. Ен будзе на шматпартыйнай аснове. На сённяшні дзень рэгістрацыя КПБ анулявана. Значыць, каб камуністычная партыя магла вылучаць сваіх кандыдатаў на аснове шматпартыйнасці, яна павінна зарэгістравацца. У даны момант яе лёс не акрэслены, паколькі А. Малафееў сам вывеў яе з саставу КПСС. Ні пленума, ні з'езда, якія б афармілі гэты выхад, не было. Можа здарыцца, што менавіта цяпер тыя ж самыя малафеевы, ціхіні, камаі ці пячэннікавы ў час прыпынення іх дзейнасці выпрацуюць праграму і статут і зарэгіструюцца ўжо пад новай шыльдай?**

—Гэта такая сітуацыя, калі справу павінны вырашаць самі камуністы, якім трэба моцна падумаць, пад чые яны стануць сцягі. Але тут важна адно: каб партыя не адрадзілася як дзяржаўны монстр, трэба, каб уся яе маёмасць нарабаваная ў народа, была аддадзена народу.

**—Хто гэта зробіць? На сённяшні склад Вярхоўнага Савета спадзявацца нельга...**

—Гэта зробіць раней ці пазней сённяшні Вярхоўны Савет. Нікуды ён не дзенецца, тым больш, што на гэтую маёмасць даўно паклалі вока мясцовыя Саветы. Найбольш радыкальныя Саветы гэта ўжо зрабілі.

Цікавая рэч, што ў Саўміне, ва ўсіх Саветах сядзяць тыя ж самыя партыйныя апаратчыкі, якія вельмі добра ведаюць, дзе што ляжыць і колькі яно каштуе. А паколькі партфункцыянеры зараз не партыйныя функцыянеры, а савецкія, яны чакаюць не дачакаюцца, каб гэтую маёмасць забраць. Я думаю, гэта будзе зроблена вельмі хутка і актыўна. І ніхто не ўратуе, хаця б таму, што забіраць яе будуць былыя калегі па партыі.

**—Дзейнасць партыі прыпынена. Многія выходзяць з яе, а некаторыя ўсё ж такі нечага чакаюць...**

—Гэта асабістая справа людзей. Многія сумленныя людзі, асабліва пасля путчу, з партыі выйшлі, бо ўсвядомілі, у якой палітычнай арганізацыі яны знаходзіліся. Ну, а тыя, у каго сумленне спіць ці ўвогуле адсутнічае, нечага чакаюць. Пэўна, спадзяюцца, што нешта зменіцца і яны з тымі ж самымі білетамі будуць мець нейкі дывідэнды. Ёсць і такія, якія думаюць, што камуністычная партыя ўсё роўна адродзіцца. Я думаю, было б і нядрэнна, каб яна адрадзілася без усялякай улады, без усялякай маёмасці, нарабаванай у народа, і тады б людзі ўбачылі ў параўнанні, якая партыя лепшая. Ва ўсіх краінах камуністы ёсць, але нідзе яны да ўлады мірным шляхам не прыходзілі. Калі ж у нас будзе праўвая дзяржава і калі ў новай кампартыі будзе што сказаць народу, я не супраць, каб яна адраджалася.

**—Каб прадстаўляцца на выбарах, КПБ напачатку трэба законным шляхам аформіць выхад з КПСС, потым зарэгістравацца хаця б пад новай шыльдай. Але камуністаў у сваёй закасцянелай сутнасці на сёння больш, чым прадстаўнікоў іншых партый, і яны зноў могуць аказацца ў большасці ў новым парламенце?..**

—Я вам скажу так: усё залежыць ад самога насельніцтва. Якое насельніцтва, такія ў яго і прадстаўнікі ў органах улады.

**—Але ж масавую думку фарміруюць. Многія шчыра паверылі партыі, і ім цяжка расстацца са сваімі ідэаламі ці, дакладней, ілюзіямі...**

—Трэба быць рэалістам: і ідэалы, і нават ілюзіі ўспрымаць як нармальную з'яву. Няхай яны будуць розныя, але не пярэчаць грамадскаму развіццю. Дрэнна, калі на ўсё грамадства нейкі адзін ідэал, адзіная думка. 73 гады гэты адзіны ідэал, гэтая адзіная думка настойліва ўбівалася, і трэба не менш трох пакаленняў, каб гэта ўсё адмерла. Таму, я лічу, будзе пераходны перыяд не менш, чым на 25 год.

**—Так, працэс адмірання будзе доўгім. Але існуе думка, што для яго паскарэння трэба ўчыніць суд, своеасаблівы Нюрнбергскі працэс над партыяй. Гэта ўяўляецца, як маральны прысуд з перадачай маёмасці народу. Але ж некаторыя партапаратчыкі стараюцца давесці радавым камуністам, што нібыта будзе чыніцца расправа, ажно да фізічнага знішчэння...**

—Суд ужо адбыўся. Тым, як павяла сябе партыя ў час перавароту, яна падпісала сабе прыгавор. Таму і любы чалавек, які хоць крыху думае, яе асудзіў таксама.

**—Але ці асудзілі партапаратчыкі самі сябе?**

—Самі сябе?.. Наўрад. Ніколі яны сябе не асудзяць. А з імі, якія б яны праграмы ні выстаўлялі, нічога мы не пабудуем. Ва ўсіх краінах, як паказала практыка, там, дзе былі пры ўладзе камуністы, эканамічнае становішча пагаршалася, развівалася мафія, спекуляцыя. І ў Беларусі таксама яшчэ доўга ўсё будзе пагаршацца, хоць для адраджэння партыі ўжо няма шанцаў.

КПБ—КПСС маглі існаваць толькі тады, калі існаваў цэнтр. У незалежнай краіне гэтая партыя не зможа выжыць, бо ў Беларусі камуністы былі толькі выканаўцамі тых ідэй, якія нараджаліся ў Маскве і ў Маскве загінулі. На самастойнасць у КПБ няма ні сіл, ні розуму. Яна не здатная ні на якую палітычную дзейнасць. Адзінае, што яна можа—гэта стварыць злачынныя мафіёзныя структуры.

**—Што ж тады паслужыла штуршком да таго, што нашы камуністы-дэпутаты ў Вярхоўным Савеце, пасля працяглай агітацыі за Саюз, пасля ўсенароднага рэферэндуму, раптам аднагалосна прагаласавалі за незалежнасць рэспублікі?**

—Яны галасавалі за незалежнасць ад страху і аб народзе не думалі, бо вельмі баяліся, што ў выніку, калі не будзе абвешчана незалежнасць, іх распусцяць. Яны паверылі ў тыя самыя плёткі, якія самі распускалі. З другога боку, да іх маглі аднесціся, як у Расіі: там і помнікі звальвалі, і ўвогуле паставіліся да камуністаў намнога горш. Там з В. Ціхіняй маглі абысціся не так, як абышліся ў нас...

Ведаючы, чым скончыўся там путч (а ўсе яны выступалі ў падтрымку), нашы камуністы збаяліся пакарання; таму ад самага пачатку нечарговай сесіі выступілі за незалежнасць, а пытанне аб дэпартызацыі намерваліся апусціць —зрабіць так званы казахскі варыянт.

**—А апазіцыя?**

—Мы напачатку паставілі пытанне аб дэпартызацыі, а потым пытанне незалежнасці. Ім не было куды дзецца, бо яны баяліся расправы народа, паколькі была аб'яўлена забастоўка; стачкомы былі гатовыя, на ўсіх заводах Менска расклеены лістоўкі. І калі б дэпутаты-камуністы не капітуліравалі, то ўжо на наступны дзень сталі б заводы і на плошчы выйшлі б сотні тысяч рабочых. Яшчэ іх напалохалі выпадкі з А. Малафеевым і з В. Ціхіняй, якога апляваллі ў літаральным сэнсе.

**—Значыць, незалежнасць, якую паслядоўна адстойвалі дэмакратычныя сілы рэспублікі, была дасягнула пры дапамозе дэпутатаў-камуністаў ад страху.**

—Выходзіць, што так...

# ЗАЯВЛЕНИЕ

## координационного совета Витебской городской организации объединенной демократической партии Белоруссии

Августовские события 1991 года коренным образом изменили политическую обстановку в стране, в том числе и в Белоруссии. Участие руководящего ядра КПСС в подготовке и попытке осуществления антиконституционного переворота еще раз подтвердило, что коммунисты руководствуются отжившим «Манифестом коммунистической партии», который проповедует насильственное ниспровержение государственного строя.

Смена вывесок в названиях республиканских коммунистических партий, которые входили в бывшую КПСС, не должна вводить людей в заблуждение, ибо главной отличительной чертой национал-коммунистов все равно остается идеологическая нетерпимость, навязывание народу идей «социалистического выбора» и коммунистической перспективы. Но этот выбор в настоящее время можно навязать только насильственным путем. А это может привести к гражданской войне.

Наша партия говорит «нет» насилию, «нет» марксизму-ленинизму! Мы подтверждаем приверженность программным задачам ОДПБ, принятым на учредительном съезде в октябре 1991 года.

Мы—за государственный суверенитет Республики Беларусь, но для его сохранения необходима конфедерация суверенных государств. Мы подтверждаем: для нас приоритет прав личности является краеугольным камнем построения демократического государства.

Мы считаем, что граждане, которые реально имеют право на свободу слова, митингов и демонстраций, печати, право менять свои убеждения индивидуально или коллективно, способны духовно развиваться и создавать шедевры национальной культуры, возрождать язык свободной нации—равной среди равных.

Мы считаем, что государство является свободным, если оно признает и защищает универсальное человеческое право на свободу. Оно является демократическим, если существует с согласия тех, кем управляет, если в таком государстве политические и экономические свободы личности выше интересов нации и государства.

**Подготовлено Координационным советом Витебской городской организации ОДПБ.**

15 сентября 1991 г.

# ЕВРЕИ И ИИСУС ХРИСТОС

**Несколько часов взволнованного душевного общения подарила витеблянам группа проповедников и религиозных служителей Американских штатов Миннесоты и Небраски, которую принимала Белорусская межконфессиональная миссия «Дзьвіна».**

Гости из США встретились с горожанами, журналистами в актовом зале городского Центра культуры. Одна из главных целей американской евангелизационной группы—обучение и благовествование среди евреев.

После яркого выступления проповедника, руководителя учредительного отдела Всемирной еврейской лиги, пастора христианской церкви штата Миннесота Дуэйна Уитлефа состоялась оживленная дискуссия.

Двое молодых горожан на этой встрече покаялись в грехах, приняли Иисуса Христа как своего Господа. Дуэйн Уитлеф со своими спутниками Барбарой Мелин, Андрие Бэнкер, супругами Свагер помолились за них, а также за всех горожан, за Беларусь.

—В Америке,—сказал Дуэйн Уитлеф,—имеется свыше двух тысяч христианских еврейских общин и собраний.

Американский проповедник, ставший в эти дни почетным членом миссии «Дзьвіна», намерен в газете «Выбар» постоянно вести христианскую рубрику, поддерживать тесную связь с витеблянами-евреями. Он изъявил и публично высказал желание оказывать духовную помощь городу.

Ожидайте на страницах нашей газеты встреч с американским пастором.

**М. ЛЕБЕДЕВ.**

*Як гуртавалася дэмакратыя Віцебска*

# Мы выйшлі...

**Хацелася б прадоўжыць да канца радок з вядомага верша Макара Краўцова, але ж гэта не будзе адпавядаць рэчаіснасці. Не памылюся, калі сцверджу: карані гуртавання віцебскай дэмакратыі сілкаваліся з клуба аматараў даўніны «Узгор'е».**

Такім чынам, мы выйшлі з «Узгор'я». Гэты клуб узнік у сакавіку 1986 года, як непасрэдная рэакцыя на весткі аб існаванні ў Менску аб'яднання гісторыка-культурнай накіраванасці «Талака». Не без гонару трэба зазначыць, што ў гэтай суполкі раўнііцаў старасветчыны былі, так бы мовіць, і бацькі—папярэднікі. Гэта Алег Куржалаў, інспектар аховы помнікаў, упарты змагар за захаванне Трынітарскага касцёла і кляштара (цяпер Пакроўская царква). Гэта мастак Алесь Мемус, які беспаспяхова прарываўся да тагачаснага «ўдзельнага князя» Кабяка, каб абараніць ад разбурэння комплекс жылых дамоў на пляцы Волі ў 1985 годзе. Над фармфакам віўся ружовы пыл. Са сцяны тырчала долу бэлька, на ёй гайдаўся напісаны спехам плакацік: «Старейшая в Белоруссии аптека». Хто ты быў, той невядомы заступнік?

Даволі хутка за сябрамі клуба «Узгор'е» замацавалася блямба: «нефармалы». Часам пракідаліся такія мянушкі, як «сектанты», «баптысты», «віцебская філія «Салідарнасці». Хваравітая ўвага абывацеля прымушала трымаць павышаны тонус, што выльвалася ў добрую працу па ачышчэнні касцёла ад смецця і ў даволі цікавыя і шматлюдныя паседжанні. Шмат каму з уладніх структур на той час у горадзе жадалася, каб дзейнасць узгорцаў грунтавалася толькі на маханні рыдлёўкамі ды цяганні насілак з грузам. Але ад выказвання думак суполка перайшла да больш канкрэтнай дзейнасці: пайшлі лісты, звароты, заявы з патрабаваннямі абараніць помнікі архітэктуры ад сучасных герастратаў.

Пачуццё далучэння да культуры (менавіта праз помнікі архітэктуры, вандроўкі, слайд-фільмы, лекцыі) абудзіла ў часткі сяброў жаданне аваладаць беларускай мовай. На гэтай глебе нават адбыўся невялікі раскол суполкі. Гэта быў крызіс. Але жыццё рухаецца наперад. Збіраецца першы, затым другі вальны сойм беларускіх суполак гісторыка-культурнага кірунку. Першы—у Палачанах пад Менскам, другі—у Вільні. На абодвух віцьбляне мелі прадстаўнікоў. Гэта была спроба сілы і згуртаванасці. Але моладзь ёсць моладзь, ідэя руху ажыццявілася, калі адгукнулася мудрасць. У студзені 1988 года ствараецца аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». На другі ж дзень група падтрымкі БНФ ствараецца ў клубе «Узгор'е». У чэрвені 1989 года на ўстаноўчы з'езд БНФ паехала каля дзесяці чалавек з Віцебска.

Калі праз добраахвотную працу на культавых аб'ектах прайшло каля 300 віцьблян, то пасяджэнне клуба наведвала толькі малая частка з іх—20—30 сяброў. Цікавая з'ява—большасць прыходзіла толькі, так бы мовіць, спажыўцамі—паслухаць апошнія нацдэмаўскія ды гарадскія навіны, паглядзець слайды, паслухаць лекцыю. Але была яна няздатная ўзваліць на сябе канкрэтны кавалак працы. Вельмі характэрна, што гэтая акалічнасць будзе ўласціва далейшаму руху дэмакратыі ў Віцебску—бэнээфаўцам, аб'яднаным дэмакратам, клубу «За дэмакратычныя выбары». Арганізацыйную працу «Узгор'я» па-ранейшаму цягнуў на сваіх плячах Ігар Цішкін, супрацоўнік музея—наладжваў талокі, вёў паседжанні, дамаўляўся пра лекцыі, даваў інтэрв'ю, рэдагаваў заявы. Значную дапамогу аказаў Валянцін Арлоў, выкладчык тэхналагічнага інстытута, прэзентуючы сваёй асобай больш сталую і паважную плынь ва «Узгор'і». Справы ж БНФ у Віцебску пакуль што межаваліся размовамі.

Першай спробай сіл былі восеньскія Дзяды 29 кастрычніка 1989 года. Гэты жудасны дзень вымагае асобнага апісання. Жудасны не таму, што былі нейкія ахвяры, але з-за неймавернага псіхалагічнага ўціску, створанага міліцыянтамі ды асобамі з Успенскай горкі. Калі калона праходзіла праз Кіраўскі мост, над галовамі ўзвіўся бела-чырвона-белы сцяг. Цэрберы ў фуражках прымусілі яго схаваць. Але сапраўднай дзеяй Фронту стаў сход віцебскіх выбаршчыкаў, арганізаваны радай Фронту 10 снежня 1989 года, прымеркаваны да Сусветнага Дня правоў чалавека ды абмеркавання пачатку выбарчай кампаніі ў Беларусі. Зразумела, такой вольніцы віцебскія бальшавікі дараваць не маглі. Кваліфікаваўшы сход як несанкцыянаваны мітынг, з дапамогай народных (народных?) суддзяў Кастрычніцкага раёна Сазон і Гелімбатоўскай, галоўныя зачыншчыкі і «бунтаўшчыкі» былі пакараныя штрафам у агульным памеры 1000 рублёў. Згодна кампетэнтным даным, не было ў баку ад гэтых падзей былы першы сакратар Кастрычніцкага райкома цяпер ужо былой КПБ тав. Бялоў.

Выбарчая кампанія набірала моц. На паседжаннях рады Фронту стала збірацца ўсё больш людзей. Стараннем Ірыны Александровай ствараецца клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». За адны суткі Віцебск быў заклеены адозвамі «Галасую за Беларусь» з пералікам кандыдатаў дэмакратычнага блоку. Але перайграць бальшавіцкіх уладароў было няпроста. Гэтыя асобы не мелі хістанняў сумлення. На БНФ пасыпаўся шквал бруду ў друку. Спрычыніўся да гэтай гнюснай акцыі і рэпарцёр «Віцебскага рабочага» Лявон Макаранка, бо пройгрыш першага туру выбараў, відаць, асабліва спакою яму не даваў. Маю на ўвазе ягоную падборку ў «ВР» ад 16 сакавіка 1990 года, дзе ён грацыёзна падводзіў чытача да думкі аб тоеснасці руху БНФ і фашызму (як цяпер бачна, бліжэй да фашызму аказалася КПБ, да якой належаў і сам Лявон Макаранка). Гэтымі артыкуламі з «ВР» памагатымі райкомаў (у службовы час, дарэчы) былі абклеены ўсе мясціны, дзе віселі адозвы Фронту. Тым не менш асабіста назіраў, як грамадзяне ішлі на выбарчыя ўчасткі, несучы ў руках улёткку «Галасую за Беларусь».

Маральная перамога над партапаратчыкамі КПБ была атрымана. Але спрут КПБ запусціў усе свае механізмы ўздзеяння на грамадскую думку і фальсіфікацыю галасавання. Факты парушэння Закону аб выбарах грамадскімі назіральнікамі былі зафіксаваны і перададзены ў пракуратуру. Зразумела, што ўскормленыя з адной кармушкі КПБ пракуроры не імкнуліся зберагчы законнасць. Такім чынам, у цяперашні склад Вярхоўнага Савета КПБ здолела правесці большасць сваіх стаўленікаў.

У мясцовых Саветах становішча склалася яшчэ страшнейшае (маю на ўвазе Віцебск і ўсе астатнія гарады, акрэм Наваполацка). Дэпутаты, якія назвалі сябе дэмакратамі ці апазіцыяй, не здолелі нават зарэгістраваць свае фракцыі. Увогуле склалася ўражанне, што дэпутаты мясцовых узроўняў баяцца непасрэднай працы з народам, мала іх бачылі на мітынгах, імпрэзах. Зразумела, што не было іх і пад час акцыі супрацьхунтаўскага пратэсту на пляцы Волі 20 жніўня 1991 года. Тым не менш, акрамя палітычнага вопыту, выбарчая кампанія дала і іншы плён. З людскога калавароту выйшлі асобы, здатныя да зарганізаванай палітычнай працы, пазней выйшлі асобы, стаўшыя на чале пэўных палітычных плыняў у горадзе. Гэта Барыс Хамайда (клуб «За дэмакратычныя выбары»), Уладзімір Плешчанка (БНФ), Валеры Журакоўскі (АДПБ), Уладзімір Дубавец (Грамада), Герман Рудзкі (гарадскі стачком) і іншыя.

**Міхась ПАЎЛАЎ.**



**На снімке:** плошча Свабоды ў горадзе Віцебске 20 аўгуста 1991 года.
Фото М. Михайлова.

# Кончилась ли эпоха номенклатуры?

С этим человеком приходится встречаться на сессиях областного Совета народных депутатов. Раньше он был весьма уверен в себе, весел. И совсем по-другому выглядел недавно, когда демократы вывесили было белорусский национальный флаг и плакаты на старом здании обкома партии. Здесь шумела толпа. Люди возмущались тем, что втихомолку решили сплавить в колхоз имени Суворова обкомовские шторы, ковры, рулоны тканей, радиоаппаратуру. Ничего из этой затеи не вышло. А он, управляющий делами обкома КПБ Эдуард Софронович Добриян, топтался позади толпы и слушал, что говорил по этому поводу народ.

Абсолютное большинство коммунистов областной партийной организации и в глаза никогда не видели Эдуарда Софроновича. А ведь он был немаловажной фигурой в областном партийном аппарате. Пришел он в обком КПБ помощником первого секретаря (вместе со своим шефом) из Гродно, потом его выдвинули на престижную должность управляющего делами обкома.

Сейчас многие рядовые члены КПСС искренне переживают трагедию своей партии. Некоторые считают приостановление ее деятельности антиконституционной мерой. Я бы им посоветовал превозмочь обиду, разобраться. Надо сказать спасибо времени за то, что эпоха КПСС, а значит и Добрияна, закончилась. С кем бы я ни беседовал из знавших Эдуарда Софроновича (бывшие партаппаратчики, шоферы обкома КПБ), доброго слова в его адрес так и не услышал.

А в Москве, между тем, создали комитет по защите бывших аппаратчиков. Значит, курилки не дремлют. Не сомневаюсь, хотелось бы остаться в прежней должности и Добрияну. Нынче он станет утверждать, что, дескать, исполнял указания своих шефов. Исполнял—в этом и вся суть.

А делали, что хотели. Захотелось иметь новые служебные покои—на глазах у всего народа вырубили деревья в парке Фрунзе, выселили жильцов из домов, построили новое здание (сколько лет теперь стоит оно с выбитыми стеклами). Потом стали разглагольствовать, что передают это помещение народу. И каким же образом передали? Более полутора миллионов рублей внес облисполком за здание, которое предназначалось под обком, в партийную кассу. Ну, а на что расходовались партийные деньги, общеизвестно—на тех же номенклатурщиков.

Были нарушения жилищного законодательства при выделении квартир аппаратчикам, с великой легкостью приобретали легковые автомашины. Но у Эдуарда Софроновича на все есть оправдательные подписи высоких покровителей. И говорит, что он здесь ни при чем.

Народный депутат областного Совета по Юньковскому избирательному округу № 77. А этот округ, между прочим, располагается на территории того же колхоза имени Суворова (куда и пытались вывезти дефицитные вещи из обкома партии).

Нынешней революции надо быть последовательной до конца: деятельность партии приостановлена, но товарищ Добриян—народный депутат. Можно ли представить себе, что в прошлую избирательную кампанию жители весьма далекого от Витебска Юньковского избирательного округа так единодушно сами захотели избрать народным депутатом именно Эдуарда Софроновича? Не нашли среди своих достойного, отправились на поиски народного трибуна в обком КПБ?

Старый закон о выборах не выдерживает критики. Я предлагаю, не ожидая новых выборов, провести общественную переаттестацию народных депутатов всех уровней. Демократических сил для этой операции в наших районах и городах вполне достаточно. Почему бы не приехать делегации общественности, представителям демократических партий в те же самые Юньки и не объяснить людям, что к чему, предложить колхозникам отозвать своего «посланца» из областного Совета? Пусть сами решают.

Думаю, что в колхозе имени Суворова найдется достаточно авторитетный человек, который бы представлял истинные интересы избирателей. И отправляться на разговор с людьми демократам надо не только в Юньки—сколько в нашем областном да и в других Советах народных депутатов, бывших номенклатурщиков. Народу теперь бояться некого. Надо брать свою судьбу в собственные руки.

**А. ГУСАКОВ.**

# ДЕТЕКТИВ С ПРОКУРОРОМ-СВИДЕТЕЛЕМ

Этой весной руководители области поздравили со вступлением в должность первого заместителя прокурора Витебской области Леонида Павловича Домашевского.

Мне же не дает покоя мой депутатский запрос управлению внутренних дел облисполкома, а точнее—скупой письменный ответ (всего лишь 13 строчек) начальника управления А. Клещенка. Я направил этот запрос по факту незаконной охоты, которая имела место 28 января 1991 года. Из письменного сообщения Алексея Филипповича понял, что за желание отведать мяса дикого кабана, а точнее за незаконный отстрел лесного зверя гражданин О. Клементьев оштрафован на 400 рублей. Что же касается заместителя прокурора Витебской области Л. Домашевского, то он «проходил» по этому делу в качестве свидетеля. И вообще, данное « уголовное дело производством прекращено и по запросу Прокуратуры БССР направлено в их адрес».

Не уважил Алексей Филиппович. Я же, как депутат, просил ознакомиться с материалами расследования, а он выслал лаконичную писульку.

Пришлось ехать в Прокуратуру республики, там повторять свою просьбу. До прокурора Белорусской ССР так и не добрался. Правда, спасибо его подчиненным, поговорили со мной в холле. И, конечно же, как и предполагал, показать материалы отказались.

Много ли, мало ли понадобилось усилий, но с заключением прокуратуры республики мне удалось позже ознакомиться. В нем говорится, что вечером 28 января 1991 г. оперативно-рейдовой группой Шумилинского РОВД Витебской области на поле в двух километрах от дер. Мосорево Шумилинского р-на возле туши убитого дикого кабана были задержаны жители г. Витебска Клементьев О. И. и Крылов Н. И. Рядом с ними находился зам. прокурора Витебской области старший советник юстиции Домашевский Л. П.. Все они были доставлены в Шумилинский РОВД.

В связи с такими обстоятельствами Прокуратурой БССР с выездом на место было проведено служебное расследование, которым установлено следующее:

*28 января 1991 г. после окончания рабочего дня Домашевский Л. П., встретив своего знакомого Клементьева О. И., попросил отвезти его в дер. Земцы Шумилинского района по личным делам. На автомашине, принадлежащей Клементьеву О. И., вместе с ними поехал зять последнего —Крылов Н. И., которого Домашевский Л. П. ранее не знал. По приезде в дер. Земцы, Домашевский Л. П. вышел из автомашины и пошел в дом своей знакомой Шариковой М. Ф., попросив Клементьева О. И. заехать за ним через 2 часа. За время нахождения Домашевского Л. П. в дер. Земцы Клементьев О. И. и Крылов Н. И., отъехав несколько километров в сторону дер. Мосорево, увидели пасшегося в поле недалеко от дороги дикого кабана, Клементьев О. И. остановил автомашину, собрал находившееся у него в багажнике ружье, двумя выстрелами убил кабана. Тушу они загрузили в багажник автомашины и, вернувшись в дер. Земцы, стали ждать возвращения Домашевского Л. П. По пути в г. Витебск они рассказали последнему об обстоятельствах отстрела ими дикого кабана и о том, что в багажнике везут его тушу. Узнав об этом, Домашевский Л. П. потребовал от них выбросить тушу убитого ими кабана. С этой целью они съехали на проселочную дорогу вправо к кустарнику. Когда туша кабана была ими отнесена на 12 м в сторону от машины, все они и были задержаны оперативно-рейдовой группой Шумилинского РОВД. Впоследствии туша убитого дикого кабана общим весом 25 кг была сдана в Шумилинскую райзаготконтору для реализации.*

*По факту незаконной охоты на Клементьева О. И. составлен протокол для привлечения его к административной ответственности. Вопрос причастности к этому Домашевского Л. П. после проведения служебного расследования рассматривался коллегией Прокуратуры БССР. Приказом прокурора Белорусской ССР от 22.02.91 г. за неразборчивость в отношениях с малознакомыми людьми и непрофессиональное поведение при этом зам. прокурора Витебской области ст. советнику юстиции Домашевскому Л. П. объявлен выговор.*

Невольно после прочтения этого документа возникают вопросы. Почему Л. Домашевский «потребовал от них выбросить тушу убитого ими кабана?» И школьнику в такой ситуации стало бы ясно: **обнаружил браконьеров—доставь их с поличным в милицию. И чего** проще было это сделать человеку с большим прокурорским стажем, о котором группа поддержки по выдвижению его кандидатом в народные депутаты областного Совета вдохновенно писала в своей листовке: «Если вы хотите, чтобы укреплялись правопорядок и организованность, торжествовало равенство всех перед законом и судом, решительно велась борьба со всем отживишм, голосуйте за представителя правоохранительных органов—заместителя прокурора области».

Не пригодились тут Леониду Павловичу многолетний профессиональный опыт и безупречная служба, за которую он был награжден знаком «Почетный работник прокуратуры СССР». Странно как-то получилось: с одной стороны эта его безупречность в работе, а с другой—«неразборчивость в отношениях с малознакомыми людьми и непрофессиональное поведение». С чего бы такая нестыковка?

Не оспариваю заключение высокой прокурорской инстанции. И ничего не имею против объявленного по случаю умерщвления браконьерами кабана выговора старшему советнику юстиции Л. Домашевскому. И все же кое в чем сомневаюсь. Это мое право. Мог бы предложить свою версию. Но кому? Гдляна и Иванова по такому малозначительному случаю приглашать нет смысла. Мечтаю организовать проверку этой детективной истории независимыми специалистами. Коль истина в кабане, надо ее окончательно выяснить.

**Б. МАТВЕЕВ,**
**депутат Витебского областного Совета.**

## Смех снимает усталость

Мальчуган жалуется приятелю:

—Не понимаю своих родителей. Если я бегаю и шумлю—они сердятся, а если веду себя тихо—начинают мерить у меня температуру.

* * *

Муж вернулся с собакой от ветеринара и говорит жене:

—Бедняжка песик! Он всю дорогу скулил, как будто что-то хотел сказать...

Жена внимательно посмотрела на собаку и ответила:

—Этот песик, наверное, хотел тебе сказать, что он не наш.

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

## З неапублікаваных вершаў

*Светлы вобраз Хрыста паклікаў,*
*За сабой ўсё больш вядзе—*
*На Галгофу ўзыходзіць Быкаў,*
*Да Галгофы Пазьняк ідзе.*

*Ды ўсё роўна радзеюць хмары,*
*Боль пакуты не крывіць рот,*
*Хоць плююцца юды ў твар ім*
*І плюе ім у твар народ.*

*Ды не знішчыцца ёй, Вялікай,*
*Белай Русі маёй ніяк.*
*Веру я, што ўваскрэсне Быкаў*
*І ўваскрэсне Зянон Пазьняк.*

## Камсамолачка юная

**Камсамолачка юная, першым**
**семнаццатым летам,**
**Свята верыць у праўду, і як жа**
**не верыць, калі**
**Ей салідныя дзядзі**
**з чырвоным партыйным білетам**
**Прапаноўваюць выпіць**
**за будучы рай на зямлі.**
**Прапаноўваюць выпіць, і хіба**
**адзінае гэта...**
**(Чалавек чалавеку на зямлі ж**
**і таварыш, і брат)**
**Камсамолачка юная, з сэрцам**
**наіўным паэта,**
**Азірніся цвяроза і вярніся да**
**мамы назад.**

**Ці ўздымі кулачок і ўдар па**
**блудлівым тым твары...**
**Што ж дзіцячыя плечыкі гэтак**
**пужліва дрыжаць?**
**Для высокай ідэі такой**
**не патрэбна ахвяры,**
**Каб затым свае локці**
**ў роспачных слёзах кусаць.**
**Будзеш доўга ты плакаць,**
**а потым шукаць суцяшэння,**
**Пойдзеш ты ў гатэль, каб**
**замежнага госця любіць.**
**А салідныя дзядзі за гэтае**
**грэхападзенне**
**Па маральнаму кодэксу будуць**
**сурова судзіць.**

**Верасень 1990 года.**




# Гэта не дробязь

Наспеў час звярнуць увагу на тапанімічныя назвы ў нашым горадзе. Бо назвы шмат якіх віцебскіх вуліц не адпавядаюць існуючай рэчаіснасці. Большасць вуліц, плошчаў дый іншых аб'ектаў названа ў гонар вядомых камуністычных і савецкіх дзеячоў: Леніна, Калініна, Кірава, Свярдлова, Куйбышава, Урыцкага, Фрунзе і г. д., а вось вуліц, названых іменамі людзей, якія шмат зрабілі для нашае Бацькаўшчыны, вельмі мала. Мабыць, акрамя тапонімаў у гонар вызваліцеляў Віцебска, можна ўспомніць яшчэ вуліцы Купалы, Коласа, Скарыны, Броўкі і некаторых менш значных дзеячоў Беларусі.

Мы думаем, што на сесіях гарсавета пытанні аб тапаніміцы будуць разглядацца. І таму маем пэўныя прапановы і заўвагі па гэтай праблеме і думаем сказаць колькі слоў на гэты конт.

Праспектаў, вуліц, завулкаў ці пляцаў, што названы ў гонар самых актыўных будаўнікоў «светлае будучыні», зашмат, і, напэўна, яны будуць хутка і ў першую чаргу перайменаваны.

Але нельга не звярнуць увагу на тое, што вельмі важна, каб сярод гэтага мноства вуліц, якія носяць імёны рэвалюцыянераў ды розных «-ізмаў», не былі выпушчаны з-пад кантролю і вуліца Мяснікова, «выдатнага рэвалюцыянера, актыўнага барацьбіта за савецкую ўладу на Беларусі».

Гэты чалавек не толькі выступаў супраць утварэння БССР, але і з пагардай ставіўся да беларускай мовы, не лічыў беларусаў самастойнай нацыяй. У суверэннай Рэспубліцы Беларусь не павінна існаваць вуліцы ў гонар такога чалавека. А гэтай вуліцы трэба вярнуць старую назву, ці перайменаваць яе ў гонар славы тых асоб, якія на справе адстойвалі інтарэсы Беларусі: Ж. Жылуновіча, В. Ластоўскага, братоў Луцкевічаў ці Я. Лёсіка.

Акрамя рэвалюцыйных тапонімаў, змены павінны адбыцца і ў назвах, якія павязаны з іншымі дрэннымі старонкамі беларускае гісторыі.

Напрыклад, вуліцы Суворава варта даць назоў «Узгорская». Бо гэтая тапанімічная назва добра стасуецца з тым, што вуліца знаходзіцца ў гістарычнай частцы места Віцебскага, на ёй шмат старых будынкаў.

Не аспрэчваючы значэнне Суворава як выдатнага палкаводца, нельга згадзіцца з тым, што ён павінен ушаноўвацца на Беларусі. 23 верасня 1771 г. Сувораў разбіў войскі нашага гетмана Агінскага ў сучасным Баранавіцкім раёне. Ён жа патапіў у крыві паўстанне Касцюшкі ў 1794 годзе.

Ёсць шмат што сказаць і пра змену назваў іншых аб'ектаў, але не будзем спыняцца на гэтым, а толькі дадамо, што пры перайменаванні гарадскіх тапонімаў трэба ўлічваць і выкарыстоўваць былыя гістарычныя назвы, раіцца з навукоўцамі, не забываць пра думку жыхароў.

Пры выбары тае ці іншае назвы неабходна ўжываць і імёны тых людзей, якімі наша старонка можа ганарыцца, а такіх постацей на Беларусі багата. Дастаткова прыгадаць знакамітых нашых землякоў: Рагнеду і Усялова Чарадзея, Ефрасінню Полацкую, Сімяона Полацкага, В. Цяпінскага, І. Буйніцкага, А. Сапунова, К. Малевіча, Яз. Драздовіча, У. Караткевіча ды іншых, не менш значных нашых суродзічаў, чые прозвішчы і імёны могуць і павінны ўпрыгожваць назвы нашых вуліц, плошчаў, паркаў.

**Н. МАЛЯЎКА,**
**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

*Гісторыя зямлі нашай*

# Мы дзеці твае, Беларусь

***Кожны чалавек калі-небудзь задаецца пытаннем: «Што такое бацькаўшчына?» Для многіх гэта—неабсяжная адна шостая зямной сушы, дзе канкрэтны «адрас не дом і не вуліца», а проста Савецкі Саюз.***

Такія ўяўленні асабліва ўласцівыя сучасным беларусам, якія першымі павінны былі зрабіць крок у камунізм,—людзям, якім невядомы далёкія прашчуры, што пакінулі аб сабе памяць у помніках дойлідства, воі, майстры, князі і ваяводы, якія баранілі гэтую зямлю, свой край, свой дом. А было іх нямала.

У IX ст. наша зямля на чале з Полацкам становіцца адным з буйнейшых цэнтраў, вакол якога пачала фарміравацца вялікая супольнасць роднасных плямёнаў. У X ст. Рагвалод ужо быў гаспадаром вялікай дзяржавы. Вялікі Кіеўскі князь Яраполк і наўгародскі Уладзімір шукалі тут сабе падтрымку. Але гістарычны лёс наканаваў гэтай зямлі і яе народу шматлікія пакуты. Толькі ўнуку Рагвалода Ізяславу ўдалося аднавіць дзедаву спадчыну. У жорсткай барацьбе Ізяслаў сын Брачыслаў і ўнук Усяслаў у XI і XII ст. ст. стварылі магутную Полацкую дзяржаву, якая аб'ядпала не толькі большасць земляў сучаснай Беларусі, але таксама многія літоўскія і латышскія, да Балтыйскага мора. Не толькі Пскоў і Ноўгарад не раз траплялі ў залежнасць ад паўднёвага суседа, але і Кіеў быў пад уладай Усяслава.

Відаць, ужо ў гэты час пачынае складвацца беларуская нацыя ў сучасным разуменні гэтага слова. Адметнасць народа, які перш-наперш вылучаецца сваёй мовай, праяўляецца ў рукапісных супрасльскіх помніках XI ст. і ў смаленскіх і полацкіх дагаворах пачатку XIII ст. На гэтай зямлі не было гвалтоўнага хрысціянства. Побач з хрысціянствам захоўваліся язычніцкія звычкі і абрады той шматтысячагадовай культуры, якая існавала да хрысціянства і часткова захоўваецца да нашага часу на Беларусі ў народных абрадах, звычках, адзенні, своеасаблівых народных спевах і музыцы. Ужо той далёкі час даў вялікіх асветнікаў, мастакоў і дойлідаў. Мы ведаем пра творы Кірылы Тураўскага, дзейнасць Ефрасінні Полацкай, майстэрства Богшы, але не ведаем імёнаў мастакоў, што распісвалі полацкія саборы XI—XII ст. ст. Летапісы паведамляюць нам імя выдатнага полацкага дойліда Івана, архітэктурная спадчына якога ўвасобілася не толькі на Полацкай зямлі, а працягнулася чырвонай ніццю праз дойлідства Смаленска, Ноўгарада, адлюстравалася ў Чарнігаве, Каломне, маскоўскіх храмах і вежах Крамля.

У XIV ст. Альгерд аб'ядноўвае ўсе этнічныя беларускія землі ад Падляшша да Вязьмы, ад Чарнігава да Апочкі, вызваляе ўкраінскія землі ад татараў, дапамагае Пскову абараніцца ад крыжакоў. Складваецца нацыя, якая становіцца ядром магутнага Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага з праваслаўнай рэлігіяй і беларускай культурай. Польшча, якая церпіць ад тэўтонаў, ужо моцна анямечаная, шукае сяброўства з Вялікім княствам. Заключаюцца дынастычныя саюзы (уніі). Саюз 1385 г. спрыяў абароне ад крыжакоў, але стварыў умовы і для пэўнай залежнасці Вялікага княства ад заходняга суседа. Ягайла, які к таму часу стаў польскім каралём, удала выкарыстаў паражэнне Вітаўта на Ворксле ў 1399 г., каб надаць палітычную залежнасць Вялікаму княству ад Польшчы. І толькі Грунвальдская бітва 1410 г., героем якой быў Вітаўт, на чале з беларуска-літоўскімі палкамі, вызваліла Вялікае княства ад гэтай залежнасці. Але Вітаўту не ўдалося пераадолець непажаданы ўплыў Польшчы і ператварыць Вялікае княства ў каралеўства. Польшча зрабіла максімум намаганняў, каб захаваць свой палітычны ўплыў на ўсходняга суседа. Толькі ў сярэдзіне XV ст. Вялікае княства распалася на Літву і Беларусь з цэнтрамі ў Вільні і Полацку. Беларусь адмовілася ад усіх папярэдніх пагадненняў з Польшчай. Гэта быў адносна кароткі перыяд у нашай гісторыі, які з-за міжкняжацкіх усобіц не быў замацаваны назаўсёды. З гэтае пары фактычна пачынаецца павольнае далучэнне Беларусі да Польшчы праз палітычны, культурны і рэлігійны ўціск. Процівагай гэтай з'яве становіцца моцная хваля адраджэння і рэфармацыі ў канцы XV, XVI і пачатку XVII ст. ст., якая нараджае выдатных дзеячоў культуры і дзяржаўцаў—Скарыну, Буднага, Мсціслаўца, Цяпінскага, Сматрыцкага, Бярынзу, Зізаніяў, Мамонічаў, Валовіча, Л. Сапегу. Рэфармацыю падтрымліваюць канцлер Мікалай Радзівіл, князь Збаражскі—ваявода троцкі, Васіль Тышкевіч—ваявода смаленскі, Станіслаў Пац—ваявода віцебскі, Юры Осцік—ваявода мсціслаўскі, Зяневіч—кашталян полацкі, Юры Тышкевіч—ваявода брэсцкі і іншыя.

Разбуранае захопніцкай вайной з боку маскоўскага цара Вялікае княства вымушана пайсці на чарговую дзяржаўную люблінскую (1569 г.) і рэлігійную Брэсцкую (1596 г.) уніі, якія значна запаволілі самабытнае развіццё Беларусі. XVII ст.—адзін з самых змрочных перыядаў нашай бацькаўшчыны. На езуіцкім вогнішчы ў Варшаве гіне Лышчынскі, працягваецца распачатая Маскоўскім княствам ў XVI ст. вайна за валоданне Беларуссю, гіне палова яе насельніцтва, да Масквы адыходзяць Смаленск і шэраг іншых беларускіх земляў. Катаклізм пашырае ўціск, які прыводзіць да апалячвання спачатку беларускага магнацтва (Хадкевічы, Кішкі, Сапегі, Агінскія, Тышкевічы, Гальшанскія і інш.), а потым і большасці шляхты. Эліта нацыі, тыя, каго цяпер мы б назвалі інтэлігенцыяй, інтэнсіўна апалячваюцца. Гэта трэба ўспрыняць як адмоўны факт—факт здрады тагачаснай беларускай інтэлігенцыі свайму народу, яго самабытнаму развіццю і культуры. Зрэшты, такое становішча вяло да таго, што выдатнага палкаводца Касцюшку, вялікага А. Міцкевіча, кампазітараў Агінскага і Манюшку сталі ўспрымаць як палякаў. І нават пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі беларусам быць ужо было не ганарова, і той, хто не хацеў бы палякам, станавіўся рускім—як Дастаеўскія, Скобелевы, Стравінскія.

Паўночная вайна XVIII ст., якую Пётр І вёў са Швецыяй і на тэрыторыі Беларусі, знішчыла трэць насельніцтва, гарады і мястэчкі. Але і ў той змрочны час XVII, XVIII ст. ст. нашы продкі пакінулі шмат каштоўнасцей на сваёй зямлі і за яе межамі ў дойлідстве, мастацтве і літаратуры—у творах Сымона Полацкага і Філіповіча, Сматрыцкага, Мужылоўскага і Капысценскага, у аздабленні манастыроў і цэркваў Істры (Новы Ерусалім), рэзідэнцыі Круціцкіх мітрапалітаў, Смаленскага сабора (Новадзявочы манастыр), Данскога манастыра, у Ізмайлаве і Ганчарах (Масква), дзе працавалі такія выдатныя майстры, як Сцяпан Іваноў, Ігнат Максімаў, Дарафей Залатароў, Клім Міхайлаў «з таварышы» і інш., у Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля, у дойлідстве Віцебска, Мсціслава, Менска, Гародні, Слоніма, Пінска.



Канец XVII і XIX ст. ст. прайшлі пад знакам русіфікацыі, вынішчэння ўсяго самабытнага, нават мовы і саманазвы. Царскім загадам забаранялася назва Беларусь і ўводзілася «Северо-Западный край». Былі зачынены Полацкая акадэмія, Віленскі універсітэт, Віленская медыцынская акадэмія пераведзена ў Пецярбург, зачынена Горацкая вышэйшая сельскагаспадарчая школа. Быць беларусам па-ранейшаму было не ганарова. І толькі канец XIX і пачатак XX ст. зноў ускалыхнулі самасвядомасць беларусаў і людзей іншых нацыянальнасцей, якія ад веку звязалі свой лёс з гэтай зямлёй, узбудзілі жаданне звацца людзьмі, а не проста «тутэйшымі». Гэта быў натуральны, заканамерны працэс у рэчышчы імкнення народаў Еўропы да самавызначэння і незалежнасці. Грэкі, нарвежцы, венгры, чэхі, палякі і іншыя народы ў гэты перыяд, зрэшты, набылі юрыдычнае права і годнасць, адпавядаючую іх гістарычнаму лёсу і ўкладу ў сусветную цывілізацыю.

Поўнага адраджэння Беларусі пасля кастрычніка не адбылося, хоць у пачатку 20-х гадоў яна і прызнавалася незалежнай шэрагам краін. Адраджэнне было прыпынена ў 30-я гады. У пасляваенны час штучны напрамак на зліццё нацый прывёў да тых памылковых вынікаў, якія мы цяпер назіраем. Працэс абуджэння свядомасці народаў працягваецца і ў наш час. На нашых вачах ідуць пошукі шляхоў да вырашэння не толькі эканамічных, палітычных, а і нацыянальных пытанняў. Складанасці, якія Усходняя Еўропа перажывае,—вынік не толькі памылковай эканамічнай, але і нацыянальнай палітыкі. Пра гэтую акалічнасць трэба памятаць і яе ўлічваць.

Рэтраспектыўны погляд на нашу гісторыю прымушае мяне зрабіць некаторыя вывады.

**Па-першае.** Маёй бацькаўшчыне ніколі не шанцавала, калі яна была разам у доўгатэрміновым хаўрусе са сваімі буйнымі суседзямі. Таму ідэя сапраўднай незалежнасці, калі рэспубліка сама вырашае ўсе галоўныя пытанні свайго існавання, кіруючыся толькі мэтазгоднасцю сваёй і свайго народа, можа стаць плённай, жыватворнай.

**Па-другое.** Даўно страчаная дзяржаўнасць зрабіла моцны ўплыў на свядомасць нашага народа і выхавала «вялікую кагорту «истинно верующих и без лести преданных» таму богу, які зараз мацнейшы і які пануе. Латвія і Эстонія, якія ніколі не мелі сваёй дзяржаўнасці, за дваццаць незалежных прадваенных гадоў набылі такі імунітэт асабістай годнасці, якога хапіла не толькі на ўвесь пасляваенны час, а і для таго, каб цяпер дамагчыся незалежнасці. Тое ж абылося і з невялікай Фінляндыяй, якая геройна адстаяла сваю незалежнасць у 1939—40 г.г.

Пакуль мы не ўсвядомім сваё агульнае адзінства і не заявім аб сваёй чалавечай і дзяржаўнай годнасці, з намі ніхто не будзе лічыцца і па-ранейшаму на картах кавалкі нашай тэрыторыі, а то і ўся Беларусь, будуць зафарбоўвацца колерамі суседзяў.

**І апошняе.** У незалежнай Беларусі павінны быць не проста незалежныя кіраўнікі ўсіх узроўняў ад Вярхоўнага Савета да сельсавета, а і новыя, не звязаныя са старымі адміністрацыйна-бюракратычнымі структурамі людзі, не проста спецыялісты, а людзі з шырокім кругаглядам і абавязкова дэмакратычных поглядаў. Толькі ў гэтым выпадку, памятаючы свой гістарычны шлях, сумленнымі дзеяннямі і плённай працай заклік «Жыві, Беларусь!» магчыма ператварыць у рэчаіснасць, якая будзе адпавядаць паняццю—«Жыве Беларусь!»

**В. АРЛОЎ,**
**выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута, член рэспубліканскай рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.**

Фота М. Міхайлава.

## Беларуская «Тысяча і адна ноч»

Вы, канечне, знаёмыя з казачным эпасам «Тысяча і адна ноч»?

Дык вось. На думку спецыялістаў па ўзлёту творчай фантазіі, якая пачэрпнута з народных крыніц, у нашай Беларусі ёсць літаратурны шэдэўр, які не ўступае па мастацкасці вядомаму ўсходняму твору. А каб пазнаёміцца з ім, можна наведаць кнігарні Віцебшчыны.

Дзякуй богу, нарэшце ўбачыла свет славутая кніга аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага (1790 г. ці 1794—1851) «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».

Фантазія аўтара збірае ў доме галоўнага героя твора, шляхціча Завальні, цікавую сябрыну. Завальня любіў паданні і казачныя апавяданні, героямі якіх былі чэрці, прывіды і заклятыя каралевічы, пекныя, нібы сонца, каралеўны. Госці шляхціча Завальні па чарзе расказвалі адзін аднаму надзвычай прыгожыя вясковыя гісторыі, у якія верыў беларускі народ.

«Шляхціч Завальня» спадабаецца і дзецям, і дарослым.

**А. ФЕНЧАНКА.**

*Из зала суда*

# С руками малинового цвета

Это дерзкое ограбление прокатилось громким эхом по Витебску. Совершено оно было в ночь на 28 февраля 1988 года. В подвальном помещении дома № 10 по проспекту Черняховского злоумышленник домкратом проломал потолок и проделал отверстие через пол в зал магазина № 35 «Одежда» Витебского горпромторга. У 125 пальто были срезаны воротники из меха песца, норки, чернобурой лисы. Стоимость этих и других похищенных в ту ночь товаров составила более 33 тысяч рублей. Еще 18 тысячам рублям равнялся ущерб от поврежденных и потерявших товарный вид пальто.

Преступление раскрыто лишь недавно. А ведь ему предшествовали другие грабежи. И не сразу следователи УВД Витебского облисполкома В. Надежный и В. Рыбалкин, работники отдела уголовного розыска этого же управления под руководством Б. Лапаревича выстроили всю цепочку хитроумных действий злоумышленника.

В ноябре 1985 года на железнодорожной станции «Киев-пассажирский» милиция задержала жителя города Донецка Б. Корчагина. Его руки и одежда были окрашены в малиновый цвет. Краска специальная, отмывается с большим трудом. Блюстители порядка знают, что обычно такие красители устанавливаются в сейфах с деньгами.

У задержанного обнаружили 400 рублей, талоны на 570 литров бензина, 8 билетов ДОСААФ и портфель с орудиями для взлома. Талоны оказались отпечатанными в Белоруссии. Последнее и явилось основанием для срочного выезда работников Оршанского РОВД в город Киев: в эти же дни совершена была кража из конторы колхоза имени Заслонова. И Б. Корчагин не стал отрицать в ней своего участия. Он рассказал, как в магазине города Орши купил лопату, туристический топорик, гвоздодер, металлический совок, стамеску. С их помощью в разное время суток среди кустов и бурьяна совершал подкоп под здание конторы колхоза. Несколько дней сидел в подкопе, выжидал, когда привезут деньги из банка. Старался подслушать через пол разговор, когда кассир поедет за зарплатой. Пустил в ход домкрат. И просчитался. В кассе денег не оказалось, а в металлическом ящике архивной комнаты нашел всего лишь 400 рублей. Малиновый же краситель сработал, пометил преступника.

К этому времени «подвигов» в 44-летней жизни Бориса Михайловича насчитывалось немало. Шесть раз побывал в местах не столь отдаленных. Проламывать потолки и полы стало его излюбленным делом. Таким же образом проник в одну из квартир города Новороссийска. В подвальном помещении промтоварного магазина в городе Донецке разобрал кирпичную стену, похитил более шести тысяч рублей. А когда отбывал за это преступление наказание в исправительно-трудовой колонии, в своей камере сделал подкоп на два метра и пытался бежать, но был задержан.

Расследование ограбления кассы колхоза имени Заслонова Оршанского района заняло много месяцев. Б. Корчагин от первоначальных показаний отказался и стал придумывать самые фантастические истории. Например, в одно время утверждал, что все изъятое у него при задержании ему передал знакомый по кличке «Мирон», с которым он отбывал наказание в исправительно-трудовой колонии города Приморска-Артарска. Долго следователи искали мифического Мирона и т. п.

Народный суд Оршанского района возвращал дело на доследование, прокуратура области отменяла постановление следователей РОВД, которым надоело заниматься бессмысленной работой по опровержению новых историй Б. Корчагина—они старались прекратить дело.

Через год и три месяца подследственный был освобожден из-под стражи, а еще через полтора года судебная коллегия по уголовным делам Витебского областного суда за покушение на хищение колхозных денег в особо крупных размерах осудила Бориса Михайловича на четыре года лишения свободы без конфискации имущества. В данном случае коллегия проявила гуманность к преступнику и назначила более мягкое наказание, чем предусмотрено законом, она сослалась на то, что он причинил незначительный ущерб колхозу имени Заслонова, то есть речь шла о похищенных 400 рублях.

Раскаялся ли Б. Корчагин во время продолжительного следствия? Еще до осуждения, когда находился на свободе, он и проломал пол в зал магазина «Одежда» по проспекту Черняховского, где и обрезал воротники. Потом из них шил мужские шапки и продавал.

Вот теперь, уже после этого очередного преступления, судебная коллегия областного суда за хищение государственного имущества в особо крупных размерах и за умышленное повреждение государственного имущества осудила Бориса Михайловича на 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества. К данному сроку присоединен срок в три года по предыдущему приговору. Б. Корчагин признан особо опасным рецидивистом и будет отбывать наказание в исправительно-трудовой колонии особого режима. За это время ему придется возместить отделу вневедомственной охраны при Первомайском РОВД весь причиненный материальный ущерб (так как преступник своевременно установлен не был и весь ущерб в магазине «Одежда» в сумме 56 тысяч 140 рублей Витебский горпромторг через госарбитраж взыскал с отдела вневедомственной охраны при Первомайском РОВД, с которым был заключен договор на охрану магазина).

Осужденный не согласился с приговором судебной коллегии и обжаловал его, надеясь, что и на этот раз к нему будет проявлена гуманность, однако к этому времени кампания гуманности прошла. Наконец поняли, куда она привела. За пять последних лет на отдельных территориях нашей республики преступность возросла в два-три раза.

Судебной коллегией по уголовным делам Верховного суда БССР приговор в отношении Б. Корчагина рассмотрен и оставлен без изменений, а его жалобы без удовлетворения. Приговор вступил в законную силу.

**Л. ГРАНКОВСКИЙ,**
**прокурор отдела прокуратуры Белоруссии.**




**Из поэтических популизмов**

*Замолкли звуки чудных песен,*
*Не раздаваться им опять.*
*Приют ЦК угрюм и тесен,*
*И на дверях его печать.*

*АД РЭДАКЦЫІ:*

## *Плануецца як штотыднёвік*

*Наша газета «Выбар» будзе выходзіць кожны тыдзень, але пакуль што нерэгулярна (не хапае паперы). Падрыхтаваны да друку дадатак «Выбара»: сумесны хрысціянскі выпуск Брытанскага Цэнтра выхавання моладзі (гор. Вілінгтон, графста Дэрбі) і Беларускай Міжканфесійнай місіі «Дзьвіна» (гор. Віцебск).*

## ЯЕ СІМВАЛ—РУЖА

Грамада. Гра-ма-да. Гэта нешта неахопнае. Нат цяжка перакладаецца з беларускай мовы на іншыя мовы. Вось такое імя атрымала партыя беларускіх сацыял-дэмакратаў. Поўная яе назва—Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада (БСДГ).

Грамада сваю мэтаю мае стварэнне добрага жыцця для грамадзян Беларусі і вырашэнне адной з галоўных спраў—сацыяльнай аховы працуючых, абароны іх правоў ды свабодаў.

Грамада канчатковай мэтай лічыць адраджэнне краю пры ўмове, што Беларусь здолее адрадзіцца пры цалкавітай незалежнасці, у якой улада сапраўды будзе належаць нашаму народу.

У Віцебску ў сакавіку 1991 года ўтворана гарадская філія БСДГ, абраны органы кіравання. Зараз мейсцовая арганізацыя налічвае колькі дзесяткаў сяброў. Яны натхнёна працуюць у партыі, і, мажліва, станоўчыя вынікі гэтае работы будуць бачны ўжо ў бліжэйшы час.

Кветка ружа—сімвал любові й спагады—стала сімвалам Грамады, як і іншых сацыял-дэмакратычных арганізацый у свеце.

Звязацца з сябрамі віцебскай «галінкі» сацыял-дэмакратычнай ружы Вы можаце па тэлефоне 36-15-87.

**Ю. СЯРГЕЕЎ,**
**па даручэнню Грамады.**

## «Свабода»—для ўсіх

***Незалежная і незалежніцкая беларуская праграма радыё «Свабода» для вас штодня а гадзінах 6.00—6.30, 8.00—9.30, 18.00—19.00, 22.00—23.00. Хвалі: 19, 25, 31, 41, 49 і 75 м.***

***Выписывайте газеты: «Свобода»—индекс 63887, цена 12 рублей на год. «Навіны»—индекс 63895, цена на 1992 год 14 рублей 87 копеек.***

***Клуб «Узгор'е» штотыдня па аўторках у 18.30 у ГЦК і А. (вул. Маякоўскага, 1).***

Выбар

*УЧРЕДИТЕЛЬ:*
*Витебский городской клуб избирателей «За демократические выборы».*

**Редактор**
**Леонид ЦВИКА**

Художники: М. Борисов, П. Козич.
Макет газеты В. Челнокова.
Временный адрес редакции: 210026, г. Витебск, ул. Маяковского, 1.



Текущий счет редакции № 200700962 в Витебском коммерческом банке («Виткомбанк»). Код (МФО) банка 405014.
Газета набрана и отпечатана офсетным способом в Витебской укрупненной типографии им. Коминтерна: гор. Витебск, ул. Щербакова-Набережная, 6.
Полиграфисты: **В. Корунас, Л. Волкова, Л. Дроздова, А. Каспорович, Д. Малышев, Б. Платовский.**
Номер подписан к печати 1.10.91 г. в 17.15.
Зак. номер 5520. Тираж 2500.
*Цена 40 коп.*